 


# НІВА

Год выдання V
№ 21 (221)
22 МАЯ 1960
БЕЛАСТОК
Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА


# ВЫНІКІ ДЫСКУСІІ

На працягу пяці месяцаў на старонках «Нівы» ішла ажыўленая перадз'ездаўская дыскусія. Настаў час падвесці вынікі нашай дыскусіі. Адразу адзначым: яны радуюць. Радуюць не таму, што ў нас усё вельмі добра, а таму, што на працягу такога доўгага адрэзку часу, у якім вялася дыскусія, не адчувалі мы недахопу дыскутантаў, і яны, у асноўным, выступалі дзелавіта, з думкай аб далейшым развіцці дзейнасці нашага Таварыства.

Абагульнім гэтыя думкі, звернем увагу на важнейшыя моманты дыскусіі. З прыемнасцю можам адзначыць, што амаль усе дыскутанты на працу Таварыства глядзяць з грамадзянскіх пазіцый, што бачаць не толькі вузкую палоску культурнай цаліны — мастацкую самадзейнасць, якую часта прынята ў нас лічыць асноўнай глебай, калі ідзе мова аб культурнай працы, але агортваюць позіркам шырокія далягляды культурнага ворыва, падыходзяць да культуры ў шырокім плане. Дарэчы, аб мастацкай самадзейнасці дыскутанты гаварылі мімаходам.

Гэта сведчыць аб тым, што старыя формы культурнай працы ўжо не задавальняюць нашага актыву, што ён ставіць перад дзейнасцю Таварыства большыя вымаганні.

Якія? Перад усім, праца ў напрамку барацьбы з адвечнай адсталасцю і цемрай: накіраванне ўсіх сіл на поўную ліквідацыю непісьменнасці, арганізацыю асветы для дарослых, наладжванне гутарак на тэмы аховы здароўя, асабістай гігіены, прыкладнага ўтрымання хаты, панадворка, арганізацыю конкурсаў чысціні і г. д.

Другая важная тэма, якую ўзнімалі дыскутанты, гэта праца выхаваўчая, асабліва сярод маладога пакалення. На першы план высоўваецца тут справа ідэйнага ўздзейнічання актыву Таварыства на членаў, а праз іх і на асяроддзе. Трэба, — сцвярджалі дыскутанты, — каб у шэрагах Таварыства раслі людзі з перадавымі поглядамі, з глыбокай верай у ідэю канчатковага вызвалення чалавека, каб яны выхоўваліся ў духу інтэрнацыяналізма, каб у паўсядзённым жыцці прымянялі навуку марксізма-ленінізма. Несумненна, добрай формай працы ў гэтым напрамку былі б дыскусійныя вечары напр. на тэму патрыятызму і інтэрнацыяналізма, якія запрапанаваў сябра Ляшчынскі з Гайнаўкі. Але пры ўмове, што яны будуць добра падрыхтаваны, што іх абслужаць ведаючыя справу дакладчыкі, якія змогуць добра справіцца з тэмай. Такія дыскусіі ў нашай працы былі б вельмі пажаданымі.

Іншую форму працы ў гэтым напрамку падказваюць сябры Чыквін з Бельска і Баршчэўскі з Беластоку. Першы звяртае ўвагу на ролю кніжкі, другі — на рэпертуар мастацкай самадзейнасці. А Вера Леўчук кажа, што найлепш уздзейнічаць на моладзь можна праз маці, праз працу з маці.

Гэта важныя галіны дзейнасці, якімі павінна заняцца Таварыства.

Цікавай формай выхаваўчай працы была б таксама арганізацыя турыстыкі, якую прапануе сябра Яновіч. Праз пазнаванне роднага краю, яго асаблівасцей і здабыткаў выпрабляюцца пачуцці патрыятызму. Сябра Швед крытыкаваў увядзенне рэлігіі ў школы і звяртаў увагу на шкодны ўплыў яе на выхаванне маладога пакалення, таму што рэлігія ў школе не толькі ўвяла блытаніну ў навучанне, але і падзяліла дзяцей на веруючых і няверуючых, праваслаўных і католікаў і г. д. Гэта з'яўляецца тормазам, — падкрэслівае Швед, — у развіцці сацыялістычных адносін паміж людзьмі. Ён выступае за поўную свецкасць школы.

Нямала тут можа зрабіць і нашае Таварыства.

Многа дыскутантаў звяртала ўвагу на адарванасць Таварыства ад вёскі, ад спраў, якімі на штодзень жывуць сяляне. Гэта трэці матыў, які праходзіў праз усю дыскусію. Гэта сур'ёзны недахоп у працы арганізацыі, але яго направім толькі тады, калі слова «Таварыства» не будзем атоесамліваць з двума - трыма кіруючымі асобамі, калі адказнасць за працу Таварыства возьмуць на сябе таксама ўсе члены Галоўнага праўлення, праўленні аддзелаў, гурткоў і ўсе члены БГКТ.

(Працяг на стар. 2).

## ВАРШАЎСКІ КАНЦЭРТ



Беларускі калектыў песні і танца пры Галоўным праўленні БГКТ у сувязі з Днямі асветы, кніжкі і друку выступіў на эстрадзе ў Пражскам парку ў Варшаве.



Танцавальны калектыў выконвае жартаўлівы танец «Юрачка»



Выступаюць Іра і Галіна Ануфрыевы. Старэйшай з іх 10 гадоў.



Канцэрт выклікаў вялікае зацікаўленне. Некалькі сот варшавян горача апладыравалі беларускаму калектыву.

Перад III З'ездам БГКТ.

# ГОЛАС МАЮЦЬ ДЭЛЕГАТЫ



**Васіль Дзун — старшыня праўлення аддзела БГКТ у Гайнаўцы.**

—Як я бачу далейшую дзейнасць Таварыства і аб чым хацеў бы сказаць на III З'ездзе? — перапытаў мяне таварыш Дзун. — Аб чым буду гаварыць на З'ездзе, яшчэ не паспеў падумаць. Мяне ж толькі што выбралі дэлегатам на З'езд Таварыства. Але аб патрэбах у далейшай дзейнасці Таварыства ўжо цяпер хочацца сказаць.

Найважнейшай справай, якую я бачу, з'яўляецца неабходнасць навязання яшчэ цяснейшага супрацоўніцтва з нашым беларускім насельніцтвам. Актывісты Таварыства, а таксама і вы, журналісты «Нівы», абавязаны часцей бываць у нашых вёсках, прыслухоўвацца да таго, аб чым гавораць людзі і не быць абыякавым да іх жыцця. Нам неабходна ўсім стаць большымі, чым дагэтуль арганізатарамі, а не толькі статыстамі ўсяго таго, што адбываецца ў нашых вёсках.

Другая справа датычыць нашага народнага калектыву, які існуе пры Галоўным праўленні.

Для каго ж ён існуе? Для Варшавы, Беластока, Гайнаўкі ці некаторых другіх павятовых цэнтраў? Чаму ж ён не можа часцей выступіць перад жыхарамі нашых вёсак? Думаю, што справа размяшчэння яго на нашых вясковых сцэнах не з'яўляецца перашкодай. За гады народнай улады ў шматлікіх нашых вёсках пабудаваны такія аб'екты, дзе смела могуць выступаць нават звыш 100-асабовыя калектывы. Такія памяшканні ёсць у Арэшкаве, Райску, Орлі і другіх вёсках Беласточчыны. Трэба да іх даехаць. Наш калектыў несумненна яшчэ больш патрапіць, так сказаць, разварушыць беларускае насельніцтва. Няхай нашыя людзі хоць цяпер паслухаюць і паглядзяць беларускія песні і танцы ў сапраўды мастацкім выкананні. Яны ж гэтага ніколі не бачылі.

І яшчэ адна справа, гэта неабходнасць дапамогі інструктараў Таварыства вясковым калектывам мастацкай самадзейнасці. Гэтага патрабуе нашая моладзь. А хто ж ёй можа дапамагчы, як не штатныя інструктары Таварыства.

Вось, між іншым і гэтыя справы хацеў бы я закрануць на З'ездзе.



**Аляксандр Харкевіч — член праўлення павятовага аддзела БГКТ у Гайнаўцы — настаўнік.**

Мяне больш за ўсё датычыць праца Таварыства сярод нашай беларускай моладзі. Усё яшчэ Таварыства не мае выпрацаваных форм працы з моладдзю. На маю думку, моладзь — гэта сапраўды вялікія, нявыкарыстаныя рэзервы ў нашай дзейнасці.

(Працяг на стар. 2)

 

 

# З РЫБАЛАЎ

чарыны былі б больш культурныя — гаворыць Пятро Сцепанюк.

— А як з пабудовай святліцы, нічога не думаеце? — пытаю.

— Ёсць план у ГРН, каб нам дапамагчы ў гэтым, але трэба, каб мы самі будавалі. На нашым сходзе 3-га красавіка я гаварыў членам гуртка... Усе выразілі згоду, што навозім жвіру на пустакі, каменя. Але трэба шмат грошай. Каб так згадзілася вёска даць складчыны на пабудову святліцы, было б добра. Падумаем аб гэтым, калі закончацца веснавыя работы ў полі.

Адзіным месцам, дзе рыбалаўская моладзь сапраўды культурна праводзіць час, з'яўляецца грамадская бібліятэка. Малады і энергічны бібліятэкар Валодзя Добаш не абмяжоўваецца гадзінамі свайго абавязковага дзяжурства. Ён клапоціцца, каб людзі маглі вечарам пасядзець пры кніжцы, газеце ці часопісе, паграць у шахматы. Так, так, у рыбалаўскай бібліятэцы ёсць такая магчымасць. Памяшканне хоць і цеснаватае, але добра прадуманая расстаноўка шафаў з 2879-цю тамамі кніжак (столькі маецца ў бібліятэцы) дазволіла на ўстанаўленне 3-х сталоў і 12-ці крэслаў. Такім чынам створана штосьці накшталт малой, скромнай чытальнай залы. Прэзідыум ГРН у Рыбалах перадаў сваёй бібліятэцы радыёпрыёмнік «Чардаш». У бібліятэцы маюцца наступныя газеты і часопісы: «Ніва», «Газета Беластоцка», «Нова весь», «Край Рад», «Беларусь», «Здрове і тшэзьвосць» і «Жыймы длужэй». Сюды часта прыходзіць 63-хгадовы Язэп Сцепанюк. Ён пабівае ўсіх чытачоў колькасцю чытаных кніг. Сцепанюка цікавіць перш за ўсё гістарычная літаратура. Любімыя яго кніжкі — «Аляксандр Матросаў», «На сопках Манчжурыі», Князь Сярэбраны», «Кандрат Булавін», «Партызанскія былі» і інш. Аб гэтых кніжках ён і найбольш расказвае моладзі.

Сярод моладзі найбольшай папулярнасцю цешацца такія кніжкі, як «Мінскі напрамак» І. Мялежа, «Векапомныя дні» М. Лынькова.

Хочацца запрапанаваць рыбалаўскай моладзі, каб яна стала ініцыятарам пабудовы святліцы, каб гурток ССМ разгарнуў сваю дзейнасць супольна з настаўнікамі мясцовай школы ў галіне зацікаўлення больш, як дагэтуль, справамі культуры, а найважнейшае — справай сельскагаспадарчай навукі.

**М. КУРАШ**

# ЖЫЦЦЁ ПАДКАЗВАЕ

Усё больш і больш гаворыцца ў асветных установах аб палітэхнізацыі нашага школьніцтва. Але пакуль што няма на гэта сродкаў, няма матэрыяльнай базы, а менавіта майстэрняў, машын, прылад і г. д. Гэтую базу трэба стварыць.

У некаторых школах настаўнікі звяртаюць вялікую ўвагу на працоўны бок выхавання.

Напрыклад, у школе ў Залуках (Беластоцкі павет) вучні вырошчваюць на школьным палетку рассаду памідораў і капусты, сеюць цыбулю, удзельнічаюць у пасадцы лесу. Арганізавана таксама школьная спулдзельня самаабслугоўвання. У школе ёсць крама з пісьмовымі матэрыяламі, а таксама вучнёўская цырульня.

Настаўнікі з Гацькоў (Бельскі павет) таксама дакладна разумеюць, што поспех выхавання і навучання моладзі знаходзіцца ў прамой залежнасці ад таго, якія веды, навыкі і пераканані атрымае дзіця на першых кроках свайго свядомага жыцця, калі яно асабліва чулае да ўспрымання. Вучні ў гэтай школе падчас практычных заняткаў і пазаўрочны час даглядаюць школьны сад і сажанцы таполяў. Пад кіраўніцтвам настаўніка яны вучацца карыстацца сталярскім варштатам, робяць лыжы, рамантуюць сталы і парты.

Прывіццё практычных навыкаў і ўменняў, патрэбных у жыцці, прыцягванне вучняў да пасільнай грамадска - карыснай працы настаўнікі ў Катлах (Бельскі павет) таксама лічаць абавязковай іх справай. У школьным агародзе расце гародніна, якую вучні самі садзілі і самі даглядаюць. Апрача таго, ёсць пітомнік фруктовых дрэвак і вучні самі іх засчэпліваюць.

Настаўнікі школы ў Валілах (Беластоцкі павет) даюць сваім выхаванцам трывалыя першапачатковыя веды па асновах навукі і вядуць мэтанакіраваную сістэматычную работу па іх працоўнаму выхаванню.

Вучнёўскі калектыў удзельнічае ў азеляненні школьнай сядзібы і сваёй вёскі. У мінулым годзе разам з настаўнікамі вучні шмат папрацавалі падчас агароджвання сеткай школьнага пляца.

Такім чынам, у некаторых нашых школах ёсць элементы палітэхнічнага навучання. З малых год прывучаюцца школьнікі любіць і цаніць працу і гэтым самым падрыхтоўваюцца да самастойнага працоўнага жыцця. Сучаснае жыццё падказвае, што як мага больш трэба звярнуць увагі на працоўны бок выхавання. Бо выхаванне чалавека новага грамадства, у якім праца з'яўляецца свяшчэнным абавязкам і патрэбнасцю кожнага, немагчыма без удзелу ў працы на ўсіх этапах навучання.

**М. Х.**

## Настаўнікі дапамагаюць моладзі

У кожнай вёсцы моладзь мае жаданне арганізаваць мастацкую самадзейнасць, хоча сваімі выступленнямі на сцэне выклікаць у аднавяскоўцаў многа пачуццяў. Але часта так бывае, што няма каму ў гэтай справе дапамагчы, няма каму падказаць, як трэба выконваць тую ці іншую ролю, ды няма такога чалавека з аўтарытэтам, якога слухала б моладзь.

У Керсаноўцы (Дуброўскі павет) падобна выглядала справа да таго часу, пакуль моладзь не звярнулася да мясцовых настаўнікаў. Настаўнікі не толькі дапамаглі ў арганізацыі і выкананні пастановак, але і самі разам з самадзейнымі артыстамі выступаюць на сцэне. Нядаўна была пастаўлена ў Керсаноўцы п'еса «Такі ўстыд». **М. Х.**

### КУЗАЎСКІ ГУРТОК ЛПЖ

Гурток ЛПЖ (Ліга сяброў салдат) у Кузаве (Гайнаўскі павет), між іншым, разгортвае культурна - асветную дзейнасць. Да гэтага гуртка належыць 12 юнакоў і дзяўчат. Нядаўна выступілі яны з п'есай С. Артоўскага «Огень на мне». Выступленне самадзейных артыстаў карысталася ў вёсцы вялікім поспехам. **М. Х.**



**ТЫЛЬВІЦКІЯ КАМЕНЯЛОМЫ**

Паміж Заблудавам і Міхаловам на сялянскіх палях знаходзіцца велізарная маса каменняў. Вякамі яны ляжалі тут нявыкарыстанымі, перашкаджаючы сялянам у апрацоўцы зямлі.

Як вядома, камень — вельмі каштоўны матэрыял у пабудове дарог.

Менавіта таму, Раён эксплуатацыі публічных дарог у Беластоку нейкі час таму назад залажыў сваю каменяломную базу ў аколіцах вёскі Тыльвіца. Памолатыя ў шасейную костку або на дробныя часткі каменні развозяцца адсюль па дарогах Беласточчыны. Апрацоўка каменя, калі не лічыць давозу да базы, тут поўнасцю механізавана і не патрабуе фізічнай сілы.

Хочацца мець надзею, што большасць тыльвіцкіх каменняў перабазуе на нашыя дарогі.

На здымку: гэтая машына — гранулятар на працягу 8-мі гадзін працы, разбівае каля 30 кубічных метраў камення. Аператар Віктар Курыловіч працуе на ёй ужо чатыры гады. За гэты час ён разбіў сваёй машынай звыш 6 тысяч кубічных метраў камення. **фота — вб.**

праву чыніць? — закочваючы рукавы, засмяяўся ён.

Мы стаялі моўчкі. Я не ведаў, як сказаць старому аб смерці Сымона.

— А Сымон - та! Добры, нічога не скажаш. Заставіў дарма чакаць. Ну, я яго, пачакай! — працягваў Фама Філімоныч.

— Фама Філімоныч, Сымона больш няма. Сымон загінуў, — сказаў я.

Рукі ў Кальчугіна апусціліся, твар збялеў.

— Кандрат, ты што пляцеш?..

Я расказаў здарэнне. Фама Філімоныч схапіўся за галаву, зрабіў некалькі крокаў, адвярнуўся і зарыдаў.

Весці прынёс Фама Філімоныч трывожныя. Яго выклікаў маёр Штэйн і спытаў, куды менавіта выехала яго дачка і ці атрымлівае ён ад яе якія - небудзь весткі. Фама Філімоныч адказаў, што пасля ад'езду дачкі ў Франкфурт ад яе не было ніводнага пісьма і ён страшна непакоіцца.

Штэйн пачаў распытваць аб сынах Фамы Філімоныча: якога яны ўзросту, дзе працавалі, з кім сябравалі. Нарэшце, папрасіў успомніць, з каго складалася сям'я памешчыка Эдэнберга. Відавочна, Штэйн нешта пра Кальчугіна чуў і цяпер намерана дакладна яго праверыць. Трэба было апярэдзіць Штэйна.

— Як адносіцца да цябе Губарт? — спытаў я.

— Пакуль усё таксама. Таропіць на качкі ехаць.



Я яму кажу — ранавата, маўляў, не апярыліся. А ён і слухаць не хоча.

— Трэба, Філімоныч, і на неаперанных ехаць, час не церпіць. Дзень яшчэ не вызначаны?

— Вызначаны на суботу. Загадаў балота падшукаць, каб ехаць напэўняка.

— І ты, зразумела, падшукаў?

— Як мае быць, не балота, а цэлае возера. Вясною рыбу мы там лавілі. Лагачоў ведае.

— Сёння панядзелак? Давай сустрэнемся ў чацвер ля гэтага возера.

Дамовіліся ў выпадку якой - небудзь затрымкі ці зрыву сустрэчы ў чацвер зрабіць яе ў пятніцу на тым жа месцы.

Стары расказаў, што ў дзень смерці Сымона са станцыі адышлі двое салдат. Ён бачыў, што яны ўзялі з сабою самую вялікую аўчарку, Спрута, і накіраваліся ў лес.

— Яны ведалі, што ты таксама павінен быў выйсці са станцыі?

— Я ім не гаварыў, але ведаць яны маглі.

— Ад каго?

— Ведаў Губарт, Штэйн, а мо' і Пахітун.

— А ці не паслалі іх сачыць за табою? Ты аб гэтым не думаў?

— Тады не думаў, а цяпер думаю.

— Што гавораць на станцыі аб знікненні гэтых салдат?



Рознае плятуць. Адны гавораць, што заблудзілі, іншыя — маўляў, дабраліся да горада, звязаліся з бабамі і п'янствуюць.

— Калі з табою гутарыў Штэйн — да ці пасля іх знікнення?

— Пасля, пасля! Ён мяне выклікаў учора вечарам.

Ужо цямнела, калі мы вярнуліся на востраў. Таня сядзела ля магілы.

— Танюша, устань, — сказаў я цвёрда і ўзяў яе за плечы.

Таня моўчкі паднялася і пайшла побач мяне.

— Глядзі, што я табе прынёс. — Лагачоў выняў з-за пазухі вавёрку і аддаў яе Тані.

Пасля вячэры я адвёў у бок Лагачова і спытаў:

— Колькі часу табе спатрэбіцца, каб дабрацца да партызанскага атрада?

— Двое сутак, — адказаў Лагачоў.

— Збірайся. Праз паўгадзіны каб быў гатовы.

Праз трыццаць мінут я ўручыў яму пакет на імя камандзіра партызанскага атрада.

— Возера знойдзеш, дзе лавілі вясною рыбу з Кальчугіным?

— Безумоўна.

— У суботу а поўдні ты павінен быць ля возера. Не пазней. Падрабязнасці ў пісьме. Жадаю поспеху! Мы паціснулі рукі.

**(Працяг будзе)**





 

